# наша свабода

№85 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

22 СНЕЖНЯ 2000 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




стр.7-10

## Прыватныя фірмы будуць правяраць

Заусёдна затурбаваны на словах тым, як жыве народ, Аляксандр Лукашэнка распарадзіўся, каб Камітэт дзяржаўнага кантролю праверыў высокаприбытковыя прыватныя прадпрыемствы. І вытворчыя, і ідовішчныя, і вучэбныя.

А.Лукашэнка хоча высвятліць, «якія агульныя даходы прадпрыемстваў, якія суадносіны гэтых даходаў з выплачанай заработнай платай работнікам і які прыбытак уладальнікаў гэтых прадпрыемстваў». Ён абяцае пасля праверак атрыманыя вынікі абнародаваць.

Тое, што дзяржава збіраецца адсочваць звышпрыбыткі і адымаць лішкі ў прыватных фірмаў, тлумачыцца абаронай інтарэсаў простага чалавека. Маўляў, тут людзям плаціць мізэр. Але, думаецца, хай бы спярша навялі парадак на дзяржаўных прадпрыемствах. ■

## Экспрапрыятараў болеe

Аляксандр Лукашэнка сапсаваў перад Новым годам прадпрымальнікам настрой, выдаўшы нядаўна дэкрэт «Аб унясенні дапаўненняў у Дэкрэт Прэзідэнта РБ ад 4 верасня 1998 г. №15».

Цяпер не толькі Камітэт дзяржаўнага кантролю і органы ўнутраных спраў, але і органы фінансавых расследаванняў маюць права экспрапрыяваць у юрыдычных асобаў і прадпрымальнікаў тавар, набыты альбо рэалізаваны без наяўнасці суправаджальных дакументаў альбо дакументаў, што пацвярджаюць якасць прадукцыі, а таксама пры несапраўдных дакументах.

Дырэктар беларускага грамадскага аб'яднання «Малы бізнес» Валерый Ржанніцкі лічыць, што з пункту гледжання Камітэта фінансавых расследаванняў як ведамства ўсё правільна, бо так ім будзе «лягчэй працаваць», але што да справы развіцця малога бізнесу, «любое выняцце матэрыяльных каштоўнасцяў без рашэння суда падрывае асновы прадпрымальніцтва». Разабрацца тут мог бы Канстытуцыйны суд, аднак у грамадскіх арганізацыяў, міністэрства прадпрымальніцтва і інвестыцыяў няма юрыдычнага права туды звяртацца. ■

## Прызначаны новы міністр культуры

У чацвер, 21 снежня, Аляксандр Лукашэнка зрабіў шэраг новых, але не гучных, кадравых прызначэнняў.

Паводле ягоных указаў міністрам культуры, як і прагназавала тыдзень таму НАША СВАБОДА, стаў Леанід Гуляка, які дагэтуль ачольваў упраўленне сацыяльна-культурнай палітыкі Саўміна. Міністр адукацыі Васіль Стражаў пакуль пакінуты на сваёй пасадзе, новыя прызначэнні ў міністэрстве тычыліся толькі ягоных намеснікаў: імі сталі Пётр Кухарчык і Барыс Іваноў. Але гарода адстаўкі ўсё бліжэй.

Што да іншых прызначэнняў, то пасолом у Сірыю выправіўся Уладзімір Лапата-Загорскі, а новым начальнікам Ваеннай акадэміі стаў Ігнат Місурагін. ■

## ВІНШУЕМ З КАЛЯДАМІ



Фота IREX/ProMedia

Новы 2001 год, надыход якога ўвесь свет святкуе ў часе Калядаў, уводзіць чалавецтва ў трэцяе тысячагоддзе. Няхай таямніца Божага Нараджэння будзе для кожнага крыніцаю адважнай надзеі.
Рэдакцыя НАШАЙ СВАБОДЫ віншуе чытачоў з Калядамі і зычыць шчасця, удачы, творчага плёну і лепшага жыцця!

## Эскалация не ради мира

Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ

**Затеянная игра с вручением верительных грамот послом США в Беларуси господином Майклом Козаком дала первые результаты. Еще до личного знакомства произошел обмен мнениями между М.Козаком и А.Лукашенко по вопросам перспектив взаимоотношений двух государств. Судя по содержанию данных ими интервью, мнения трудно назвать миролюбивыми. Поэтому предполагавшееся 20 декабря вручение главой американской дипломатической миссии главе белорусского государства церемония вручения так и не состоялась. В президентской администрации по-прежнему говорят, что дата этого, в общем-то технического момента работы обеих сторон согласовывается. Хотя все прекрасно и так знают, что при единоличном правлении А.Лукашенко в Беларуси бремя согласований его не тяготит.**

То, что нового посла США официальный Минск встретит неласково, можно было предположить. Майкл Козак удостоился редкой «чести», получив еще до приезда в Минск негативный отзыв белорусского МИД на свое критическое заявление о ситуации в Беларуси. Казалось бы, обменялись заявлениями и приступили к нормализации отношений ради мира. Но судя по всему и нынешнему послу США придется лично убедиться в своенравности хозяина страны, в которой ему предстоит работать в наступающем веке.

Некоторым казалось, что буйные времена скандала, связанного с выселением послов (за исключением российского) из их резиденций в Дроздах и приведшего к глухой изоляции с Западом, постепенно канут в прошлое. Приход Урала Латыпова на должность главы МИД Беларуси ознаменовался подписанием примиренческого соглашения по Дроздам с Евросоюзом и отдельно с США. Своеобразным «просветительским» авансом для А.Лукашенко стало его появление на саммитах в Стамбуле и Нью-Йорке. Правда, между ними были шумные визиты в Белград и приостановка вместе с Россией контактов с NATO из-за бомбардировок Югославии. Затем, участие в «Программе ради мира» Беларусь возобновила. Даже своего представителя прислала в Брюссель раньше российского. Все признаки здравомыслия во внешней политике Беларуси связывали с уже бывшим главой МИД Уралом Латыповым. Вроде бы его назначение на должность госсекретаря Совета безопасности и помощника А.Лукашенко по национальной безопасности должно было усилить позитивное влияние на своенравного правителя. Легальные либералы, некоторые из которых даже к властям подпущены, охарактеризовали приход У.Латыпова в Совбез, как появление у режима «человеческого лица». Однако, его приход оказался связан с новой эскалацией отношений не ради мира с Западом. ▶

*Окончание на стр.3*

## Амбасадару ЗША ўлады не даюць працаваць

Рыгор БУЯН

**Напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў улада распачала прэсінг на замежных дыпламатаў, акрэдытаваных у Мінску. Скандал з абвінавачваннямі на адрас КНГ АБСЕ ды пасла Віка цягнецца ўжо не першы месяц. Цяпер улада ўзялася за амбасадара ЗША ў Мінску Майкла Козака, антыпатыю да якога беларуская ўлады праяўляюць ці не з моманту ягонага прызначэння. Чарговым крокам на шляху дыскрэдытацыі амерыканскага дыпламата сталася заява прэс-сакратара беларускага МЗС Паўла Латушкі.**

«Прыбыўшы на Беларусь, сп.Козак робіць тыя ж заявы па дыскрэдытацыі Беларусі, краіны свайго новага месцазнаходжання, якія ён рабіў у сябе ў ЗША. Гэта не робіць яму гонару як дыпламату.

Сп.Козак з'яўляецца прызначаным пасолом і, каб стаць паўнамоцным пасолом, ён мусіць уручыць вярыцельныя граматы Прэзідэнту РБ А.Лукашэнку. Сп.Козак ведае пра існаванне ў РБ практыкі, якая выцякае з палажэнняў Венскай канвенцыі пра дыпламатычныя адносіны, гэтак жа як і ведае пра тое, што да ўручэння ім вярыцельных граматаў узгадняецца.

Што да заявы сп.Козакам пра нелегітымнасць беларускіх уладаў, то мы нагадваем яму, што легітымнасць беларускіх улад вызначаецца народам Беларусі, а не сп.Козакам». Гэтую заяву, тэкст якой прыводзіцца амаль цалкам, мы папрасілі пракаментаваць старшыню Вярхоўнага Савета 13 склікання Сямёна Шарэцкага, які больш за год знаходзіцца ў палітычнай эміграцыі ў Літве. ▶

*Заканчэнне на стар.3*

## НАВІНЫ

■ **Да 28 снежня Беларусь атрымае ад Расіі першую частку стабілізацыйнага крэдыту.** Яна складзе 30 мільёнаў долараў. Прычым дзве трэціны ад гэтай сумы адразу ж будзе аддадзена Расіі ў форме пагашэння запазычанасці за энерганосьбіты. У беларускім урадзе даводзяць, што астатняя частка з прыкладна 100 мільёнаў долараў усяго стабілізацыйнага крэдыту пойдзе ўсё ж па яго прызначэнні – на так званую стабілізацыю беларускага рубля.

■ **Спецыялісты прагназуюць, што ў наступным годзе службы занятасці зарэгіструюць больш як 200 тысячаў беспрацоўных.** Амаль палову, 45% ад іх, складуць звольненыя па ўласным жаданні, 10% — выпускнікі навучальных установаў, 5% — дэмабілізаваныя салдаты тэрміновай службы і звольненыя працаўнікі. Астатнія – гэта іншыя катэгорыі насельніцтва.

■ **За апошнія 10 гадоў колькасць хворых на пранцы і ганарэю павялічылася ў 45 разоў.** За гэты год у Беларусі зафіксавана каля 9 тысячаў выпадкаў такога захворвання. Па тэмпах росту хворых на пранцы мы займаем 1 месца ў Еўропе. Аднак дакладнай колькасці сіфілітыкаў медыкі не ведаюць, бо хворыя звычайна звяртаюцца не ў дзяржаўныя, а ў прыватныя лякарні.

■ **На ўтрыманне дыпламатычных прадстаўніцтваў Беларусі за мяжой у наступным годзе плануецца выдаткаваць 22,4 мільёна долараў.** Часткова гэтыя расходы мяркуецца кампенсаваць за кошт спагнання консульскіх збораў за суму 8,2 мільёна долараў. Беларуская нерухомасць за мяжой зараз – гэта 21 будынак пад офісы пасольстваў, 6 асобных жылых дамоў і 9 кватэраў у 19 краінах свету.

■ **35.225 рублёў павінна выплаціць Брэсцкае аддзяленне Беларускай чыгункі пасажырцы Ганне Курыловіч.** Рашэнне аб гэтым прыняў суд Ленінскага раёна Брэста. Але такім чынам ён усё роўна толькі часткова задаволіў вымогі Г.Курыловіч кампенсаваць фізічныя і маральныя страты за выпадак (яна патрабавала 105.225 рублёў), калі ў дызельным цягніку на галаву жанчыне ўпала фортка.

■ **Па звестках міністэрства працы, запазычанасць па зарплаце складае зараз у Беларусі 3,8%.** Прычым амаль 9/10 ад усяго прыпадае на галіну сельскай гаспадаркі. Аляксандр Лукашэнка даў распараджэнне да Новага года запазычанасць скасаваць і выплаціць людзям заробак. Дарэчы, тое самае А.Лукашэнка загадваў зрабіць да 1 верасня, але пазыка ўсё адно засталася.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА

| | |
|---|---|
| Віцебск | 0 -3 |
| Мінск | -2 -7 |
| Магілёў | -1 -4 |
| Гродна | -1 -7 |
| Гомель | -2 -6 |
| Брэст | -2 -7 |



Курс наяўнага долара на «чорным рынку»



1210

# Амбасадару ЗША ўлады не даюць працаваць





Фота Ул. ШЛАПАКА

*Заканчэнне. Пачатак на стар.1*

17 снежня старшыня Вярхоўнага Савета 13 склікання Сямён Шарэцкі сустракаўся ў Вільні з амерыканскім амбасадарам у Літве. Па словах С.Шарэцкага, амбасадар ЗША яшчэ раз пацвердзіў, што «ў Злучаных Штатах не будзе ніякіх зменаў у адносінах да беларускага рэжыму».

Падчас сустрэчы, як гаворыць С.Шарэцкі, «усё абмяркоўвалася: і сітуацыя ў Беларусі, і ўмовы напярэдадні так званых, я лічу, «прэзідэнцкіх выбараў», таму што ва ўмовах дыктатарскага рэжыму дэмакратычныя цывілізаваныя выбары адбыцца не могуць». На думку спікера, «адначасова з пытаннем аб вылучэнні адзінага кандыдата ў прэзідэнты неабходна ставіць пытанне пра адхіленне рэжыму ад улады». Чатыры ўмовы, сфармуляваныя міжнароднай супольнасцю дзеля стварэння дэмакратычных умоваў выбараў, не могуць быць выкананыя, бо для рэжыму гэта – смерць».

Каментуючы заяву прэс-сакратара беларускага знешнепалітычнага ведамства, Сямён Шарэцкі назваў яе «заявай-абгрунтаваннем папярэдніх дзеянняў, правакацыяй» з боку рэжыму. «Дыктатарскі рэжым — ва ўсе часы і ўсюды дыктатарскі рэжым: спачатку робіць правакацыі, а затым абвінавачвае ў іх іншых. Не прымае Лукашэнка вярыцельных граматаў у Козака – Козака затым абвінавачваюць у тым, што ён працуе без вярыцельных граматаў.

Што да абразаў Беларусі з боку Козака... Я чуў заявы Козака – ён такіх абразаў не выказваў. Ён гаварыў, што цяперашні рэжым – нелегітымны, дык ён гаварыў праўду. Тэрмін прэзідэнцкіх паўнамоцтваў скончыўся год таму, палата прадстаўнікоў не абраная, а прызначаная: ні ў адной акрузе сапраўдных дэмакратычных выбараў не было. Дык Козак усё правільна казаў: усе аўтарытарныя рэжымы апіраюцца на хлусню, рэпрэсіі... Чаму Лукашэнка гаворыць, што вынікі прэзідэнцкіх выбараў будуць залежаць ад таго, як спрацуюць спецслужбы ды ўчастковыя? З чаго б гэта ўчастковы міліцыянер мусіць адказваць за тое, як прагаласавалі людзі на ягоным участку? Выбары – дзеля таго, каб людзі зрабілі свой выбар, а не для ўчастковага.

І гэтая заява – абгрунтаванне папярэдніх дзеянняў улады», — заявіў спікер. Сямён Шарэцкі ўпэўнены, што ўручэнне вярыцельных граматаў «зацягваецца наўмысна, каб не даць працаваць Козаку». ■

## Савет Рэспублікі падаражэе ўдвая

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ**

Савет Рэспублікі зацвердзіў каштарыс расходаў на фінансаванне дзейнасці палаты і яе органаў на 2001 год.

Прадстаўляючы парламентарыям дадзены дакумент, начальнік сакратарыята Савета Рэспублікі Дзмітрый Шыла паведаміў, што законам аб бюджэце на 2001 год фінансаванне Нацыянальнага сходу прадугледжанае ў памеры 2 мільярдаў 243 мільёнаў 710 тысяч рублёў. «Гэтая сума ў асноўным адпавядае тым патрэбнасцям і разлікам, якія былі прадстаўленыя ў міністэрства фінансаў», — зазначыў ён.

Па словах Шылы, каштарысам расходаў на ўтрыманне Савета Рэспублікі і яго органаў прадугледжанае выдзяленне ў 2001 годзе 651 мільёна 119 тысяч рублёў, што прыкладна ў два разы больш, чым сёлета. Прычым, зазначыў начальнік сакратарыята, аб'ёмы некаторых расходных артыкулаў на ўтрыманне Савета Рэспублікі ўзраслі ў тры разы. Апрача таго, па яго словах, у каштарысе расходаў улічаныя інфляцыйныя працэсы ў 2001 годзе.

БелаПАН

## НАРОДНАЕ МЕРКАВАННЕ

**Напярэдадні Каляды і Новы год. На якую суму вы, зыходзячы са сваіх магчымасцяў, здольныя зрабіць падарункі сваім родным ці сябрам?**



**УЛАДЗІМІР ЯРМОЛІК, сталяр-цясляр:**

— Я магу выкласці на гэтую справу тысяч пяцьдзесят дзесьці. Праўда, што канкрэтна можна было б падарыць на гэтыя грошы, я пакуль што не ведаю.



**АНІШЧАНКА АРЦЁМ, студэнт:**

— Патрачу дзесьці тысяч дваццаць. Набуду для сваёй дзяўчыны недарагую касметыку, сувенір які на памяць. Ну і ўлічу ейныя пажаданні.



**ДАВІДОВІЧ АЛЯКСАНДР:**

— Каля ста долараў амерыканскіх прыкладна. Набуду дарагія духі, цацку мяккую – вялікую. На гэтым этапе я думаю будзе дастаткова.



**АКСАНА, будучы біёлаг:**

— Агулам на ўсіх? Долараў дваццаць пяць, не болей. Так, па дробязі штонебудзь набуду, на што гэтых грошай хопіць. Што ж тут сур'ёзнага набудзеш.



**ІВАН, ваенны:**

— Я магу патраціць усю суму свайго заробку на родных мне людзей у гонар надыходу новага тысячагоддзя. А заробак мой складае шэсцьдзесят тры тысячы «зайцаў» усяго толькі, на жаль. Таму, па-першае, трэба будзе глядзець, што набыць, паболей выпіць-закусіць, свята ўсё ж такі такое, а там – што застанецца.



**ПАЎЛАВА КАЦЯРЫНА, перспектыўны юрыст:**

— Ну, напэўна, долараў сорак. Парфумерыю маме, тату таксама, верагодна, якую-небудзь парфумерыю. Невялікія, праўда, атрымаюцца падарункі, але ж галоўнае — гэта ўвага.



**ГОЛАСАЎ ПЁТР, гісторык:**

— Агулам, пры заробку ў мяне семдзесят-восемдзесят долараў, у жонкі пяцьдзесят-шэсцьдзесят долараў, пры двух дзецях, я так думаю, што дваццаць-трыццаць тысяч рублёў – усё, што змагу сабе дазволіць патраціць на падарункі. Для дзяцей – танныя цацкі толькі хіба што ды цукеркі, а для жонкі дробязь якую з касметыкі.

Апыталі **Аляксей ШЫДЛОЎСКІ і Уладзімір ШЛАПАК (фота)**

## ЗАЯВА Еўрапейскага Саюза адносна Беларусі

**Паседжанне Пастаяннага Савета №314 14 снежня 2000**

Еўрапейскі Саюз у вышэйшай ступені занепакоены прапагандысцкай кампаніяй беларускага дзяржаўнага тэлебачання, накіраванай супраць Кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ і пасла Віка, у прыватнасці. Паклёпніцкая кампанія дзяржаўнага тэлебачання дасягнула мяжы законнага крытыцызму і з'яўляецца наўмыснай спробай дыскрэдытацыі пасла Віка, гэтаксама як і працы і ролі КНГ.

КНГ грае значную ролю ў поўнай адпаведнасці са сваім мандатам. Трэба нагадаць, што перад КНГ была пастаўленая задача працаваць як з дзяржаўнымі інстытутамі, так і з грамадзянскай супольнасцю, уключаючы недзяржаўны сектар. У сувязі з гэтым, трэба заўважыць, што яшчэ неабходна выканаць шмат з прадпісанняў гэтага мандату. КНГ павінна працягнуць сваю працу на Беларусі дзеля гэтага на бліжэйшы перыяд.

Еўрапейскі Саюз цалкам падтрымоўвае ўсе намаганні, якія робіцца КНГ і паслом Вікам, і чакае ад Урада Беларусі выканання сваіх абавязкаў канструктыўна супрацоўнічаць на шляху дэмакратызацыі; у сувязі з гэтым мы заўважаем важнасць прэзідэнцкіх выбараў у наступным годзе.

Гэты дакумент падпісалі асацыятыўныя краіны, Балгарыя, Кіпр, Эстонія, Венгрыя, Латвія, Літва, Мальта, Польшча, Румынія, Славакія, Славенія, Чэхія і Турцыя.

# Прафсаюзы ўзнялі голас

**Рыгор БУЯН**

**У канцы сакавіка 2001 года камітэт па свабодзе асацыяцыяў Міжнароднай арганізацыі працы (МАП) разгледзіць скаргу трох прафсаюзаў ФПБ і БКДП наконт парушэння прафсаюзных правоў беларускімі ўладамі. Пра гэта 20 снежня заявіў старшыня ФПБ Уладзімір Ганчарык па прыездзе з Жэневы, дзе 11-17 снежня прайшла 6 Еўрапейская рэгіянальная нарада МАП. Са Швейцарыі кіраўнік прафсаюзаў прывёз і заяву ў падтрымку беларускіх прафсаюзаў.**

32 дэлегацыі з 43, што бралі ўдзел у форуме, жорстка выступілі супраць намаганняў беларускага рэжыму зрабіць прафсаюзы «кішэннымі». Пасля вядомай скаргі, накіраванай у МАП у чэрвені, ціск як на афіцыйныя, так і на незалежныя прафсаюзы ўзмацніўся. Удзельнікі нарады запатрабавалі ад беларускіх уладаў выконваць Канвенцыі МАП, ратыфікаваныя ўрадам, пра свабоду асацыяцыі, пра неўмяшанне ўрада ва ўнутраныя справы прафсаюзаў, права на забастоўку. Калі ж палітыка ўладаў да прафсаюзаў не зменіцца, МАП гатовая зрабіць «сур'ёзныя крокі» ў дачыненні да Савета міністраў, і рашэнне камітэта па свабодзе асацыяцыяў будзе насіць «палітычны характар». Гэта азначае «непрызнанне, пэўная ізаляцыя і эканамічныя санкцыі». «Я не хачу гэтага, але да таго ўсё ідзе», — заявіў У.Ганчарык.

Напружанне паміж уладамі і прафсаюзамі, між тым, нарастае. Лідэр ФПБ заявіў, што не падпіша праект Генеральнага пагаднення на 2001-2003 гады. Пасля размовы 20 снежня з першым віцэ-прэм'ерам Андрэем Кабяковым стала зразумела, што дасягнуты сустаршынямі Нацыянальнага савета па сацыяльных і эканамічных пытаннях «дамоўленасці кату пад хвост, і мы не можам пагадзіцца і падпісаць Генпагадненне». Урадавым бокам дэзавуіраваны дамоўленасці давесці ў наступным годзе зарплату бюджэтнікаў да 90% ад аплаты працы ў прамысловасці, індэксацыю да 75% БПМ, зрабіць апераджальны рост зарплаты ў бюджэтнай сферы. Таму ФПБ адмаўляецца ад удзелу ў Нацыянальным савеце 28 снежня, і Генпагадненне будзе накіраванае на дапрацоўку. А ФПБ, зважаючы на сітуацыю, рыхтуецца да акцыі пратэсту пад лозунгам «Заробітную плату – на ўзровень цэнаў» у першай палове лютага — 14 ці 16 лютага.

Відавочна, што адным з асноўных пытанняў, што падымаліся на сустрэчы У.Ганчарыка з журналістамі, сталі прэзідэнцкія выбары 2001 года. У.Ганчарык ухіліўся ад прамога адказу на пытанне, ці збіраецца ён балатавацца кандыдатам у прэзідэнты. «Я чалавек паднявольны, таму ўсё будзе залежаць ад пленуму Федэрацыі», які, па інфармацыі НАШАЙ СВАБОДЫ, пройдзе ў студзені.

Аднак Уладзімір Ганчарык усё ж выказаў асабістую думку пра прэзідэнцкую кампанію. «Мая асабістая пазіцыя, і гэта пазіцыя з'езда, што прафсаюзы мусяць удзельнічаць у выбарах прэзідэнта РБ. Гэтая пазіцыя можа праяўляцца ў формах і змесце ўдзелу. Могуць быць падтрыманыя блокі, якія сёння вырысоўваюцца, ці агульны рух з сімвалічнай назвай «У новае стагоддзе – з новым прэзідэнтам», ці прафсаюзы будуць вылучаць уласнага кандыдата. Тут таксама ёсць кандыдатуры, якія можна разглядаць як і кандыдатуры, вылучаныя некаторымі партыямі. Таму мая пазіцыя залежыць ад таго рашэння, якое прыме пленум Федэрацыі».

Уладзімір Ганчарык лічыць, што ў прафсаюзаў ёсць «розныя сцэнарыі». «Але можа быць створаны агульны рух, які знойдзе кампраміс паміж інтарэсамі, і не абавязкова ставіць «во главу угла» пытанне, хто будзе адзіным кандыдатам у прэзідэнты. Магчыма, было б больш выйгрышным з тактычнага пункту гледжання, каб было знойдзенае кампраміснае рашэнне па камандзе, якая будзе ўдзельнічаць у выбарах: прэзідэнт, прэм'ер, іншыя ключавыя пасады, калі б можна было б з'яднаць інтарэсы на агульнай платформе», — заявіў Уладзімір Ганчарык.

Як бы то ні было, але ўжо цяпер Уладзімір Ганчарык бачыць памылку, якую дапускаюць палітыкі, рыхтуючыся да выбараў. «Ёсць памылка, якая ўжо цяпер праглядваецца: чамусьці ўсе настроеныя, што будзе другі тур выбараў. А калі не будзе? І тады пачнецца выяўленне адносінаў паміж правымі і левымі. Гэта тая праблема, якая мусіць быць знятая цягам бліжэйшага часу», — упэўнены старшыня ФПБ. ■

# Эскалация не ради мира

*Окончание. Начало на стр.1*

Свидетельством тому стали недавние выступления нового председателя КГБ Леонида Ерина и самого Александра Лукашенко. У граждан и гостей Беларуси стало возникать ощущение атмосферы осажденной крепости, в которой они оказались. А.Лукашенко прямо заявил, что «нам надо выдержать атаку на белорусский народ, на наше независимое государство». Представляется неоднозначным ответ на вопрос: кто атакует белорусский народ? Но затеянный сейчас новый раунд антизападных игр подтверждает мнение, что в Беларуси продолжает функционировать режим личной власти, несовместимый с демократическими ценностями, которыми руководствуется мировое сообщество. Как свидетельствует мировая практика, возможности влияния мирового сообщества на такие типы правления в сторону здравого смысла ограничены. Тем не менее, полагают в некоторых европейских структурах, демократические рычаги «просвещения» пока остаются актуальными для Беларуси.

Интересующиеся возникшим скандалом с новым американским послом задаются вопросом: чем он может закончиться? Почти все наблюдатели высказывают предположения, что апогеем разворачивающейся истерии шпиономании может стать какой-либо инцидент с иностранным дипломатом, гражданином. С последующими торгами по его освобождению или выдворению. Обычные шпионы уже появились. Лукашенко назвал аж четырех. Причем из разных соседних стран. А к этому празднику – Дню чекиста, белорусское КГБ рапортовало, что, оказывается, за последние полтора года им выявлено целых 120 шпионов. Как говорил чекистами нелюбимый Горбачев, процесс пошел. И, похоже, наступает пора, когда понятия «шпион» и «оппозиционер» станут тождественными. Как тут не вспомнить слова авторитетного шефа КГБ Юрия Андропова о том, что в СССР садят не за инакомыслие, а за инакодействие. Соответствующие статьи в УК имелись. Сегодня ведь и в суверенной Беларуси по политическим мотивам не сажают. Правда, как считают местные правозащитники, если статью для оппозиционера трудно найти в УК, то тогда можно не найти и сам субъект внимания.

Созданная вокруг посла США ситуация с затяжкой церемонии вручения верительных грамот и нагнетание угроз в адрес Консультативно-наблюдательной группы ОБСЕ в Беларуси во главе с послом Х-Г.Виком воспринимается как индикатор состояния самого руководителя страны. Естественно, он весь в тревогах о возможных президентских выборах в Беларуси, которые обещают провести в сентябре будущего года. Кстати, о сентябре. Помнится, предшественник Майкла Козака посол Дэниэл Спекхард вручал 15 сентября 1997 года верительные грамоты А.Лукашенко. Тогда некоторые телетрубадуры режима посчитали нужным отметить тот факт, что грамоты были вручены аккурат в день 50-летия ЦРУ. Видимо, что-то у кого-то вновь сыграло в голове и повлияло на решение не принимать грамоты от американского посла 20 декабря 2000 года – в день другого юбилея — 80-летия чекистского аналога ЦРУ – внешней разведки. ■

## За Зінаідай Ганчар ходзіць «шпік»

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

Жонка віцэ-старшыні ВС Віктара Ганчара, зніклага летась у верасні, зрабіла сенсацыйную заяву пра тое, што за ёй вядзецца слежка. Выступаючы на прэс-канферэнцыі ў праваабарончай арганізацыі «Вясна» Зінаіда Ганчар паведаміла журналістам: «За мной «ходзяць» амаль увесь час, пільнуюць ледзь не кожны мой крок. Чаму я так перакананая? Бо бачу іх, яны дрэнна хаваюцца. Калі губляюць мяне з поля зроку, то пачынаюць так мітусіцца, што хочаш не хочаш іх заўважыш». Далей Зінаіда Ганчар выклала журналістам сваю версію гэтага пільнавання. Яна мяркуе, што ягоная мэта – не столькі прасачыць за яе дзеяннямі, колькі аказаць на яе псіхалагічны ціск. «Мне даюць зразумець, каб я не чапляла ўладу, не варушыла гэтую справу, пра якую яны жадаюць забыцца. У рэшце рэшт, я не выключаю і таго, што ад мяне дамагаюцца з'ехаць з краіны, як зрабіла Вольга Захаранка – на яе таксама аказваўся псіхалагічны ціск. Я пакуль трымаюся, я не веру, што Віктара скралі, каб забіць, гэта можна было зрабіць прасцей, ён жа не меў ніякай аховы. Зінаіда Ганчар не выключае, што гэта робяць адныя і тыя ж людзі, але адкуль яны, жонка намесніка старшыні ВС не ведае. «Гэта могуць быць чэкісты альбо іхныя калегі з міліцыі, ці з нейкай іншай спецслужбы. Але я перакананая, што яны не самі па сабе дзейнічаюць. У знікненні Віктара быў зацікаўлены толькі адзін чалавек, і толькі гэты чалавек можа аддаваць загады любым сілавікам. Следчыя мусяць працаваць у першую чаргу над гэтай версіяй, але такой магчымасці ў іх проста няма», — лічыць Зінаіда Ганчар.

У дадатак сенсацыяй прагучала навіна пра тое, што былы вадзіцель Ганчара Лычоў з'ехаў з Беларусі і цяпер жыве ў Галандыі. ■

# Сцэнарый патрабуе добрых акцёраў

**Канстанцін СКУРАТОВІЧ**

**Пра аб'яднанне грашовых сістэмаў Беларусі і Расіі напісана ці не зашмат. Але да гэтае пары грамадства не мае дакладнай інфармацыі аб апошнім праекце, калі не лічыць каментараў, у аснову якіх пакладзеныя заявы саміх палітыкаў. А гэта людзі, як вядома, у большасці калі не крывадушныя па характары асобы, дык крывадушныя па характары займаемых пасадаў.**

Па-першае, 100 мільёнаў долараў (30 мільёнаў ужо ў снежні) маюць мэтавае прызначэнне: забеспячэнне сбалансаванасці ва ўзаемным гандлі паміж Беларуссю і Расіяй. А гэта ёсць фактычнай падтрымкай расійскіх вытворцаў, якія прадаюць свае тавары на беларускім рынку. Інакш кажучы, гэтыя грошы не пакінуць межы Расіі, а будуць пералічаныя на рахункі ўласных прадпрыемстваў для ліквідацыі запазычанасці беларускіх партнёраў. А штo тычыцца абяцаных 4,5 мільярдаў расійскіх рублёў на стабілізацыю беларускай валюты, то іх выкарыстоўваць будуць пад кантролем расійскага Цэнтрабанка. Бо даваряць рэанімацыю «зайца» дактарам, што давялі яго да клінічнай смерці, было б верхам непрадбачлівасці.

Вось у чым уся справа: афіцыйны Мінск чакае грошай, а Масква згодная плаціць за уніфікацыю механізма Беларускай эканомікі з расійскай. У «тутэйшых» павінен быць капіталізм расійскага кшталту, без ніякага там рынкавага сацыялізму і іншых глупстваў. Каб Лукашэнка больш не мог гуляць з Лужковым у тэніс на калгаснае масла. Інакш кажучы, Расія збіраецца заплаціць за санацыю беларускай эканомікі, каб звесці да мінімуму выдаткі, звязаныя з ажыццяўленнем афіцыйнай аперацыі банкруцтва. Фактычна гэта ёсць доказам палітычнага, эканамічнага і сацыяльнага краху Лукашэнкі.

Ужо ў I квартале наступнага года Беларусі патрэбна лібералізаваць працэдуру вызначэння абменных курсаў беларускай валюты адначасна замежных на біржавых рынках. Інакш кажучы, значна зменшыць умяшальніцтва дзяржавы. А гэта значыць пазбавіць сябе значнай часткі валютных паступленняў. Калі не, то і крэдыту не будзе.

За 4 гады Беларусі трэба зрабіць самы натуральны пераварот у поглядах на ролю і функцыі ўрада ў эканоміцы. Бо тое, што зараз лічыцца доказам яго сілы (прыкладам, інфляцыйная падпітка эканомікі), трэба будзе лічыць доказам слабасці. І наадварот, неўмяшальніцтва ў справы эканомікі, што лічыцца зараз доказам слабасці, трэба будзе лічыць доказам сілы. Не кажучы ўжо пра тое, што і сёння смешныя на ўсіх адносінах селектарныя нарады ў новым свеце будуць выглядаць доказам натуральнага вар'яцтва.

Красамоўней за ўсё сам тэкст дамовы. Вось далёка не поўны пералік мерапрыемстваў, якія павінна выканаць Беларусь. Зніжэнне гадавога ўзроўню інфляцыі і велічыні дэфіцыту бюджэту да ўзгодненых узроўняў (сёлета ў Расіі, па падліках, інфляцыя не выйдзе за 20 працэнтаў, у нас наблізіцца да 100, а дэнамінаваны рубель «пахудзее» ў 2 разы). Таксама трэба будзе спыніць ільготнае крэдытаванне Нацбанкам усіх праектаў. А што тады рабіць з крэдытамі АПК і жыллёвага будаўніцтва (сёння пад 0,5 стаўкі рэфінансавання і 5 працэнтаў гадавых адпаведна).

Перспектывы даволі змрочныя. Беларусь атрымлівае фінансавую дапамогу ад Расіі, праўдае яе і, не выканаўшы ўмоваў пагаднення, падпісвае іншую дамову. У той момант, калі расійскі ўплыў становіцца татальным, а сама думка аб захаванні суверэнітэту становіцца недарэчнай для большасці насельніцтва, дамову аб уваходзе ў склад Расіі.

Як паказвае гісторыя, палітыкі, што праклямуюць адкрытую дыпламатыю, больш за ўсё схільныя да закулісных інтрыгаў. У нашых акцёраў не хопіць таленту выканаць напісаныя для сябе ролі. А гэта значыць, што ім прыйдзецца пакінуць сцэну. І лепш бы было, каб яшчэ ў першым акце. ■

# Жорсткае папярэджанне д-ра Г.Кауза

**Да выбараў прэзідэнта засталося зусім крыху. Ці гатовыя вы да паходу на выбарчы ўчастак? Анкету, што паможа кожнаму без бутэлькі пераадолець ягоныя палітыка-ментальныя забурэнні, распрацаваў вядомы даследчык беларушчыны з Кранмантанскага універсітэта (штат Мантана) д-р Г.Кауза (*Honoris Cauza*). Ён мне даручыў дасылаць па адным пытанні ў нумар і абагульняць вынікі.**

*З павагай, дац. Юзік Лабэцкі*

**LABOREM EXERCENS**

**1. Ці згодныя Вы са зместам наступнай нацыянальнай прыпеўкі:**

*Нам калгаснае жыццё*
*Вельмі спадабалася.*
*Не пужай, Амерыка,*
*Не на тых нарвалася.*

Крыніца: Беларускі фальклор. Хрэстаматыя. Мн.1970,с.599.

**1.1.** Так.
**1.2.** Не.
**1.3.** Баюся, што мяне «вылічаць».
**1.4.** Іншае (напішыце) ____________

Абвядзіце кружком ці падкрэсліце адказ, каторы найболей адпавядае вашым думкам пра лёс Бацькаўшчыны. Адашліце яго ў:

**1.1.** рэдакцыю;
**1.2.** цэнтрвыбаркам;
**1.3.** іншыя ўстановы.

Вашага адказу чакаюць усе.

Тым часам праз Сусветнае сеціва шаноўны д-р Кауза атрымаў пэўныя аб'ектыўныя звесткі аб становішчы беларускіх абарыгенаў з аўтахтонамі. Сярэднямесячная велічыня біюджэту г. зв. «прожиточного минимума» — («прожиточный минимум», альбо ПМ — расійская ідыёма непрыстойнага зместу, абазначае садысцкі здзек над асобамі ў беззаможным стане) — за дзевяць месяцаў 2000 г. у сярэднім на душу насельніцтва склала 27.417 рублёў.

Міністэрства нашай бязлітаснай статыстыкі падчас абследавання хатніх гаспадарак выявіла 4.000.000 тубыльцаў, што злосна ўхіляюцца ад усеагульнага дабрабыту і атрымліваюць прыбыткі меншыя за той ПМ. Няцяжка здагадацца, чаму колькасць гэтых вычварэнцаў паменела за год болей чым на паўмільёны асобаў. Некаторыя заходнія эксперты будуюць гіпотэзы, паводле якіх гурты, чароды і статкі гэтых упартых ажыццяўляюць дыфузію ў бок Чукоткі. Д-р Кауза ганьбіць гэтыя замудрагелістыя ідэі сусветнага сіёна-масонства. Паводле ягонай тэорыі, скарачэнне адбылося шляхам інкарпарацыі найбольш раз'юшаных з вышэйзгаданых у шэрагі дэструктыўнага апазіцыйнага падполля, дзе яны рыхтуюцца назіраць за выбарамі.

Дарэчы, спробы гэтай самай апазіцыі муціць народ абсалютна беспадстаўныя. Мяркуйце самі. Па выніках апытання хатніх гаспадарак аб змяненні матэрыяльнага становішча за мінулы год аж 10,9% гаспадароў паведамілі аб ягоным паляпшэнні; 38,4% канстатавалі нязменнасць свайго маёмаснага стану і толькі нейкія вартыя жалю 50,6% апытаных паведамілі пра пагаршэнне. Прычым 23,6% мелі нахабства заявіць, што ў той час, як рэальныя прыбыткі насельніцтва ўзраслі проці леташніх на 16%, становішча іхніх хатніх гаспадарак пагоршылася істотна. Карупцыянеры — самыя сапраўдныя.

Вынікі г. зв. даследаванняў мінстата выявілі гэтак сама поўную эканамічную непісьменнасць насельніцтва. У эпоху, калі дзяржава дасягнула макраэканамічнай стабілізацыі, а інфляцыя амаль утаймаваная, 95,9% апытаных прафанаў спрабуе пераканаць нас, што збядняла з-за росту цэнаў, які апярэджвае рост заробкаў, а 19% скардзілася нават на скарачэнне заробку.

Абураны д-р Кауза даслаў факс у мінстат. Слаўты вучоны-нацыяналіст абвесціў пачварны выкапень камунізму непажаданай установай на Беларусі і як прадстаўнік вызвольнага руху загадаў яму пакінуць краіну разам з тымі хлусамі, каторых яны апытваюць. ■

**Занатаваў і даслаў у рэдакцыю Ю.ЛАБЭЦКІ**

# Когда вкладчик банку не нужен

А не нужен он тогда, когда он достал свои сбережения из домашней банки и отнес их в любой банк РБ.

Сколько раз только за последние десятилетия нас помярковных, талерантных, соборных и т.п. финансовые воротилы обували в лапти, трудно даже вспомнить.

Все это было еще задолго до развала СССР: девальвировалось, замораживалось и т.п. все, что только можно было, дабы забрать у меня последнее с тем, чтобы я стал зависим от государства, которое с голодным и раздетым будет делать все, что ему — этому государству, угодно.

Более года тому «трещал по швам» банк «Поиск». До сего дня ни слова не сказано, где находились или находятся более 10 млн. долларов США. Около 6 тысяч нашим с вами согражданам по разработанному сценарию было предложено переоформить ранее заключенные договора (юридические документы) с, например, 14–16% годовым сроком на 3–6 месяцев, на 7–8%, но уже на 1,5–3 года. Забрать свои деньги я не могу: у них уже другой хозяин. Сценарий, разработанный не на Луне, удался.

Сейчас 1:1, после не первой уже премьеры, разыгрывается новый спектакль, только с суммой не 10, а 17 млн. долларов США, и «зрителей» не 6, а более 10 тысяч в банке «Белбалтия». Более настойчивые уже отсудили свои деньги в суде, но как сказано, денег у банка «нет». Выполнять решение суда нечем.

Когда этот суд будет международный, то и деньги найдутся и все остальное будет названо своими именами.

Есть официальное разрешение Мингорисполкома на митинг 23.12.2000 года в 10:00 на площади Бангалор. Приходите, пожалуйста, все заинтересованные граждане РБ посоветоваться и высказать это представителям Нацбанка и другим организациям нашей страны.

**С уважением, И.ИВАНИЦКИЙ**

ЭКСПРЭС

# Прогнозы, долги, расчеты...

**Андрей КАРПОВИЧ**

**Планируются поставки электроэнергии на Запад за счет мощностей Березовской ГРЭС**

В первом полугодии 2001 г. белорусские власти планируют начать поставки электроэнергии в Польшу и страны Западной Европы за счет мощностей Березовской ГРЭС. С включением Березовской ГРЭС в польскую энергосистему, которая входит в объединение *Centrel*, в Западную Европу будет экспортироваться до 600 млн. кВт электроэнергии в год.

**Миссия МВФ закончила свою работу в Беларуси**

Даже по итогам переговоров с главой Национального банка Петром Прокоповичем и премьер-министром Владимиром Ермошиным никаких конкретных документов подписано не было. Это станет возможным, если уже в ближайшие недели белорусское правительство даст понять фонду, что намерено следовать его рекомендациям.

**Подписана Программа сотрудничества между правительством РБ и Всемирной организацией интеллектуальной собственности**

7 декабря 2000 года в Женеве под эгидой Всемирной организации интеллектуальной собственности (ВОИС) начала работу Дипломатическая конференция по аудиовизуальным исполнениям. В работе данной конференции принимает участие делегация Республики Беларусь, которую возглавляет заместитель премьер-министра Республики Беларусь Михаил Демчук.

Целью программы является координация совместных действий правительства Республики Беларусь и ВОИС, направленных на совершенствование законодательства Республики Беларусь в области интеллектуальной собственности, усиление роли интеллектуальной собственности в соответствующих областях научной, технической и экономической деятельности, осуществляемой на территории Республики Беларусь различными субъектами хозяйствования.

**Карточки для обмена тугриков на «зайчики»**

Государства СНГ создают объединенную платежную систему, сообщил РИА «Новости» директор сводного департамента зоны свободной торговли Исполнительного комитета СНГ Владимир Покровский. В соответствии с этим проектом граждане стран СНГ получат возможность приобрести пластиковые карты «*CIS-card*» для беспрепятственного обмена валюты своей страны на валюту страны пребывания в любом из государств СНГ.

**«ЛУКОЙЛ» поглотил американскую компанию *Getty***

Российская нефтяная компания «ЛУКОЙЛ» объявила в понедельник в Нью-Йорке о завершении сделки по приобретению компании *Getty Petroleum Marketing Inc.* По словам представителей «ЛУКОЙЛа», это первый в истории случай поглощения российской корпорацией американской компании.

**По оценке Нацбанка Украины Беларусь попадает в предпоследнюю группу рейтинга**

По состоянию на 1 декабря этого года в рейтинге стран, определенным Национальным банком Украины, Беларусь включена в предпоследнюю, седьмую, группу. В эту группу также вошли: Ямайка, Монголия, Пакистан, Парагвай, Румыния, Суринам, Венесуэла, Россия, Молдова, Азербайджан, Туркменистан, Украина, Гватемала, Гондурас, Кения, Никарагуа и Шри Ланка.

**Нефтепродукты в Беларуси практически достигли мировых цен**

В понедельник президент концерна «Белнефтехим» Иван Бамбиза рассказал представителям СМИ о текущих делах и перспективах развития ситуации на внутреннем рынке нефтепродуктов. Ситуация напряженная. Констатировав в очередной раз, что «мы практически подошли к уровню мировых цен», Иван Бамбиза попросил «привыкать» к этому.

**Минский Моторный завод перешел на четырехдневную рабочую неделю**

Причина сокращения рабочего времени — катастрофическая нехватка средств. Как сообщает газета «Беларускі час», основной потребитель продукции ММЗ — Минский тракторный завод — задолжал предприятию около 5 миллиардов рублей, в связи с чем нет возможности регулярно обеспечивать производство комплектующими, выполнять требуемые договора на поставку продукции, а, следовательно, и вовремя выплачивать зарплату работникам.

Как результат — периодические вспышки негодования рабочих, после которых, нужно признать, администрация изыскивает в «пожарном» порядке некоторые средства, однако, по истечении времени проблема еще больше обостряется, и, как отмечают специалисты, если не изменить коренным образом сложившееся положение, то последствия, главным образом социальные, могут быть весьма и весьма серьезными. ■

Рэдакцыя прапануе сваім падпісчыкам аплаціць падпіску праз аддзяленні ААБ «Беларусбанка».

Для аплаты падпіскі адпаведную квітанцыю (гл. ніжэй) трэба выразаць нажніцамі. Адзначце ў квітанцыі тэрмін, на які афармляеце падпіску, прозвішча падпісчыка і паштовы адрас, на які дастаўляць газету.

**Кошт падпіскі на адзін месяц 1040 руб. Калі вы жадаеце падпісацца на большы тэрмін, то павялічце суму ў адпаведную колькасць разоў.**

*Рэдакцыя газеты прыносіць прабачэнні ААБ «Беларусбанка» за недакладнае пазначэнне банкаўскай паслугі.*

## КВІТАНЦЫЯ ДЛЯ «БЕЛАРУСБАНКА»

Форма № ПД-5

**ИЗВЕЩЕНИЕ**

УНН 101562750 **Редакция газеты «Наша СВАБОДА»**
получатель платежа
**Отделение «Центральное» ОАО «Белбизнесбанк»**
**г.Минск, код 493; Минск, пл.Свободы, 17**
наименование банка

Счет получателя **3012205160015** Лицевой счет

(фамилия,имя,отчество)

(индекс) (адрес)

На 2001 год по месяцам:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

**За подписку на газету «Наша СВАБОДА»** Сумма

Пеня

Кассир Плательщик Всего

УНН 101562750 **Редакция газеты «Наша СВАБОДА»**
получатель платежа
**Отделение «Центральное» ОАО «Белбизнесбанк»**
**г.Минск, код 493; Минск, пл.Свободы, 17**
наименование банка

Счет получателя **3012205160015** Лицевой счет

(фамилия,имя,отчество, адрес)

На 2001 год по месяцам:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

**КВИТАНЦИЯ**

**За подписку на газету «Наша СВАБОДА»** Сумма

Пеня

Кассир Плательщик Всего

